


# Анакрэон

## Песні і фрагменты

n

# Анакрэон

## Песні і фрагменты

*Пераклад са старагрэцкай*
*Лявона Баршчэўскага*

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2019

УДК 821.14'02-1
ББК 84(0)3-5
А64

Серыя заснаваная ў 2016 годзе.



Пераклады зроблены паводле выданняў:
*Frühgriechische Lyriker. III. Sappho, Alkaios, Anakreon*.
Griechischer Text bearb. v. Bruno Snell. Akademie-Verlag Berlin 1981.
*Ἀνακρέοντος ᾠδαι καί ἄλλα λῦρικά*. Anakreons Lieder nebst andern
lyrischen Gedichten, von Joh. Fried. Degen. Altenburg,
bey Gottlob Eman. Richter, 1787.
*Carmina Anacreontea* / ed. M. L. West. Leipzig: Teubner, 1984.

На вокладцы:
*Невядомы аўтар,*
*Бюст Анакрэона (V ст. да н. э., рымская копія II ст.).*

**ISBN 978-985-23-0069-8**

# З КНІГІ ПЕРШАЙ

## *1*

*[Малітва да Артэміды]*

*(Γουνοῦμαί σ᾽ ἐλαφηβόλε...)*

Паляўнічая, Дзэўса дачка,
Артэміда  – зіхоткасць кос,
  валадарка лесу й жывёл,
горад слаўны цешыць цябе,
дзе Летэя[1] плынь, дзе тваіх
ваяроў адважных жытло:
гэта ж вам не нейкі натоўп,
  не паўдзікай збой грамады.

---

[1] Прыток ракі Мэандр у Малой Азіі.

## 2

*[Малітва да Дыёніса]*

*(Ὦναξ, ᾧ δαμάλης Ἔρως...)*

Пане, з кім Эрот – што як бык, –
чарнавокіх німфаў натоўп
  і Кіпрыда гульні вядуць,

ты, мінаючы пікі гор,
так чаканы, о Пане мой,
я прашу: ты сыдзі сюды,
нас усцеш і яшчэ пашкадуй
  ды пачуй, што цябе прашу:

хай паслухаецца Клеўбул –
не пагрэбуе жарсцю маёй,
  о, вялікі Дыёніс-бог!

### *3*

*(Κλευβούλου μεν ‘έγωγ’ έρώ...)*

Я Клеўбула так палюбіў,
па Клеўбуле аж звар’яцеў,
  зрок Клеўбула шукае мой.

## *4*

*(Ὦ παῖ παρθένιον βλέπων...)*

У цябе дзявочы пагляд –
за табой лячу, а ты – прэч,
і няўцям табе, што цяпер
  маё сэрца ты зацугляў.

## 5

*(Σφαίρηι δηὖτέ με πορφυρῆι...)*

Пурпуровы мячык шпурнуў
ты, Эрот руды, у мой бок,
каб гуляць я пайшоў з дзіцём,
  што ў сандалях пекных такіх.

Толькі ж кплівы позірк дачкі
выспы Лесбас: я ж, ах, сівы!
І глядзіць яна ў другі бок,
  прагна ловіць іншы пагляд.

## *6*

## *(Μείς μεν δή Ποσιδηϊων...)*

Пасейдонаў месяц[1] настаў,
набрынялі хмары вадой,
ашалела скачуць вятры –
і скавычуць гучна наўкол.

---

[1] Маецца на ўвазе шосты месяц атычнага календара, прыкладна сярэдзіна снежня – сярэдзіна студзеня.

## *8*

### *(εγώ δ’ ούτ’ άν ‘Αμαλθίης...)*

Амалтэін[1] дастатку рог
ужо больш не патрэбен мне,
бо калі табе пяцьдзясят,
то й Тартэскі[2] не вабіць трон.

---

[1] Амалтэя – каза ці, паводле іншай версіі, німфа, якая выратавала і выкарміла малалетняга Дзэўса і валодала чарадзейным бычыным рогам.

[2] Тартэс – горад на поўдні Пірэнейскага паўвострава, які славіўся багаццем срэбра.

## *17*

*(᾿Αρθεὶς δηὖτ᾿ ἀπὸ Λευκάδος...)*

Рынуў з Леўкадыйскай скалы[1],
ад мілосці новай п’яны́.

[1] Так называлася скала на беразе вострава Леўкадыя ў Іанічным моры. Скочыўшы з гэтай скалы, можна было пазбавіцца ад нераздзеленага кахання або здабыць сабе прыхільнасць каханай асобы.

## *18*

*(...τίς ἐραμίην τρέψας θυμὸν...)*

...той, каго
адурыла хлопца краса,
ён, мажліва, танчыць яшчэ
пад аўлоса[1] гукі ды спеў
на бяседзе...

---

[1] Старадаўні духавы інструмент, які нагадвае сучасны габой.

# З КНІГІ ДРУГОЙ

## *21*

*(ὁ Μεγιστὴς ὁ φιλόφρων δέκα...)*

Мегіст[1] слаўны носіць з лазы
ўбор і год амаль п’е віно[2].

---

[1] Відавочна, малады ўлюбёнец лірычнага суб’екта верша.

[2] Праз дзесяць месяцаў пасля дасягнення паўналецця маладыя людзі атрымоўвалі права ўдзельнічаць у святах у гонар Дыёніса. На востраве Самас з гэтай нагоды юнакам ускладалі на галаву лазовыя вянкі.

## *26*

*(Παρὰ δηὖτε Πυθόμανδρον...)*

Ад Эрота ўпрочкі бег я –
Пітамандр[1] мне шлях заступіў

---

[1] Відавочна, адзін з улюбёнцаў лірычнага суб'екта верша.

## *27*

*(Φέρ ὕδωρ, φέρ οἶνον, ὦ παῖ...)*

Прынясі вады, віна дай,
хлопчык, дай мне з кветак вянкі,
пачакай, і бойку пачну
я з Эротам на кулаках.

## *28*

*(τὸν Ἔρωτα γὰρ τὸν ἁβρόν…)*

Будзе мной апеты Эрот,
бог пяшчотны ў вянку, што так
аздабляе голаў яму.
Бо ўсёўладны ён між багоў,
а паміж людзей – пагатоў.

## *29*

*(ἔραμαι δέ τοι συνηβᾶν...)*

Ля цябе хачу маладзець,
бо ты – ветласць і прыгажосць.

## *32*

*(ἐμε γὰρ λόγον...)*

Маладыя хлопцы мяне
дзеля вершаў мусяць любіць:
я ж умею гожа спяваць,
гожых словаў ведаю шмат.

## *39*

*(ἀγανῶς οἶά τε νεβρὸν νεοθηλέα...)*

Як аленяня, я ад маці ўцёк
даўгарогай, выпіўшы малака.
Толькі ж вось мяне ў лесе страх бярэ.

## *42*

*(Ἀπό μοι θανεῖν γένοιτ᾽ οὐ γάρ ἂν ἄλλη...)*

Прагну: смерць, прыйдзі! Бо ратунку я
больш не бачу: пакуты засцяць свет.

# З КНІГІ ТРЭЦЯЙ

## *43*

*(«Ἄγε δὴ φέρ᾽ ἡμίν, ὦ παῖ...»)*

«Хлопчык, дай мне келіх гэты –
асушу яго імгненна!
Размяшай вады ў ім дзесяць
і віна – яшчэ пяць частак,
каб крыху мне быць вясёлым,
а не п’яным, як вакханкі.

Прынясі нам келіх зноўку:
мы не будзем напівацца,
нібы скіфы, ды галёкаць.
Дзеля ўцехі вып’ем трошкі,
заспяваем спеў вясёлы».

## *44*

## *(Πολιοὶ μὲν ἡμὶν ἤδη...)*

Скроні ўжо мае сівыя,
і блішчыць мой чэрап голы –
ўсмешак моладзь больш не дорыць,
рэдкія зжаўцелі зубы,
ад жыццёвых насалодаў
мне драбок малы застаўся.

Вось таму я і рыдаю
перад Тартарам у жаху!
Бездань страшная Аіда,
скрушная туды дарога:
хто сыходзіў ёй аднойчы,
ўжо не вернецца ніколі.

# З КНІГІ ДРУГОЙ АБО ТРЭЦЯЙ

## *45*

*(Μεγάλωι δηὖτέ μ᾽Ἔρως...)*

Велізарным молатам лупіць зноў мяне Эрот,
як каваль суровы, і пхае ў ледзяны ручай.

## ***46***

*Смердыэсу*

*(Προς Σμερδιην)*

Вось ты кудзеры састрыг,
іхні бездакорны квет.

## *47*

*(...Θρηικίην σιόντα χαίτην.)*

...горда ты
фракійскай грывай трос.

## *48*

*(...Διονύσου σαῦλαι Βασσαρίδες.)*

Басарыды[1] ў танцы
Дыёніса славяць.

---

[1] Фракійскія і лідыйскія менады.

***49***

*(οὐ δηὖτε μ' ἐάστεις...)*

Я напіўся – што ж мяне ты
не пускаеш цяпер дамоў?

# З НЯВЫЗНАЧАНЫХ КНІГ

## *51*

*(ἀσπίδα ῥίψας ποταμοῦ...)*

Выкінь шчыт мой на бераг ракі,
што прыгожа гэтак цячэ.

## *51A*

*(Χαῖρε, φίλον φῶς...)*

Слаўлю я прыязнасць святла
і цябе, і ўсмешку тваю!

## 52

*(Ἀναπέτομαι δὴ πρὸς Ὄλυμπον...)*

Я на лёгкіх крылах сваіх
да Алімпа зараз лячу:
вінаваты толькі Эрот,
што хлапцу няўтульна са мной.

## *53*

*(...Ἔρως, ὅς μ' ἐσιδὼν γένειον...)*

...Эрас толькі маю бараду
ўбачыў, што ссівела, – махнуў
крыллем з золата пекным сваім,
праляцеў паўз мяне.

## *54*

## *[Праныра]*

## *(Πρὶν μὲν ἔχων βερβέριον...)*

Ён даўней апранаў лахманы, сабе ў вушы заўжды ўстаўляў
з дрэва простыя кольцы, насіў рэшткі голых бычыных шкур,
    што калісь акрывалі шчыт;

жыў з гандляркамі дробнымі ён, з прастытуткамі начаваў,
гэты подлы махляр Артэмон, той, што зарабляе ўвесь час
    грошы брудныя свае.

Ля слупа ён стаяў пад бізуном, у катоўні на коле быў[1],
скура лопалася пад бізуном, бараду выдзіралі яму[2],
    вырывалі яму валасы.

Ну а сёння ў раскошы сын Кіке[3] жыве, залатыя аздобы на ім,
парасон носіць з ручкаю дарагой, са слановай косці, відаць,
    нібы пані багатыя...

---

[1] Так каралі ў той час несумленных гандляроў.

[2] Ка́ра, вызначаная для чужаложцаў.

[3] Намёк на Артэмонаву жанчынападобнасць.

## *55*

*(φίλη γὰρ εἶς ξείνοισ'...)*

Гасцей так цешыш ты!
І маю прагу, панна, наталі.

## *59*

*(οὐδ᾽ ἀργυρέη κω...)*

Тады яшчэ не ззяла
срэбная Пейто[1].

[1] Маецца на ўвазе, што некалі, «у старыя добрыя часы» Пейто, спадарожніца Афрадыты, чаравала іншых не срэбрам, а праз свае прыгажосць, красамоўнасць і г. д.

## *60*

*(ἐγὼ δ’ ἀπ’ αὐτῆς...)*

Як зязюля, я ад яе
уцякаю цяпер.

## ***61***

*(Ἡδυμελὲς χαρίεσσα χελιδοῖ...)*

Так салодка міла
ластаўка пяе.

## *63*

*(καλλίκομοι κοῦραι Διὸς...)*

Прыгожакудры карагод
Дзэвесавых дачок[1].

---

[1] Відаць, тут гаворка ідзе пра Харыт – багіняў прыгажосці, уцех і жаночай прывабнасці.

## *65*
## *(...ἐγὼ δὲ μισέω...)*

...так ненавіджу я
ўсялякіх зласліўцаў, згрызотнікаў на зямлі.
Але я заўважыў прытым, Мегісце, што ты,
да звягі не схільны зусім.

## *66*

*(οὔτε γὰρ ἡμετέρειον...)*

Вось жа тут проста
нетутэйшая прыгажосць.

***68***

*(βούλεται ἠπεροπός...)*

Хітрасцю балбатун ці абдурыць нас?

## *69*

*(Ἠρίστησα μὲν ἰτρίου λεπτοῦ...)*

На сняданак я сёння з’еў
кавалачак пірага,
але конаўку выпіў віна
і пектыду[1] у рукі ўзяў,
каб служанку-рабыню апець,
так любае мне дзіця.

---

[1] Струнны інструмент, які меў падабенства з арфай.

# ЯМБЫ

## *77*
*(κνυζή τις ἤδη καὶ πέπειρα γίνομαι...)*

Больш сіл няма ў мяне,
як у кабеты старой,
бо прагу й юр твае
адолець я не магу.

## *78*

*(κοὐ μοκλὸν ἐν θύρῃσι...)*

Хоць ён падвойных дзвярэй
з двара не застаўляў,
спакойна спіць сабе ён[1].

[1] Гаворка ідзе пра некага, хто не меў ніякага дабра ў доме і таму не баяўся злодзеяў.

## *79*

*(Ἐρέω τε δηὖτε κοὐκ ἐρέω...)*

Кахаю і зноў не кахаю я,
шалею і не шалею зноў.

## *80*

*(μηδ' ὤστε κῦμα πόντιον...)*

З хваль мора прыклад не бяры
і з Гастрадорай[1] языком
не пляскай, кубак напаўняючы
ахвярны ў тым жытле.

[1] Прамоўнае імя – абазначае: «дар пуза». Тут свядома перакрыўляецца распаўсюджанае тады жаночае імя *Мэтрадора*.

## *82*

*(Ὁ μὲν θέλων μάχεσθαι...)*

Хто ў бітву хоча – няхай
у бітву рушыць сабе.

## *83*

*(...λίην δὲ δὴ λιάζεις.)*

Ты надта спяшаешся ўсё ж.

## *84*

*(Ὦ ῥαννὲ δὴ λίην...)*

Каханая, цябе
кахае занадта шмат...

## *85*
## *(ξείνοισίν ἔστε μειλίχοισ᾽ ἐοικότες...)*

Падобныя вы надта да гасцей,
якім цікавыя адно агмень і дах.

## *86*

*(Πάλαι κοτ’ ἦσαν ἄλκιμοι Μιλήσιοι.)*

Калісьці мілетцы
харобрымі былі ўсе.

## *88*

*(Πῶλε Θρηικίη, τί δή με...)*

Што ж, фракійская кабылка,
на мяне глядзіш ты скоса
і чаму ўцякаеш? Можа,
думаеш: някемны я?

То павер, цябе я спраўна
і спакойна зацугляў бы –
з лейцамі ў руках як трэба
кіраваў бы я табой.

Пасвішся яшчэ ты сёння,
жвава гойсаеш па траўцы,
бо пакуль што вершнік хвацкі
не знайшоўся на цябе.

## *88A*

*(...καὶ κ[όμη]ς, ἥ κατ᾽ ἀβρόν...)*

...цяпер пазбаўляешся ты
ад валасоў, што гэтак пяшчотна раслі
ў цябе на патыліцы раней.
І вось ты лысы ўжо зусім,
праз дотык нечых брудных рук
упалі пасмы валасоў
у пыл чарнюткі на зямлю.

Жалезам сцятыя яны
няўмольным; што ж тут бедаваць,
як перашкодзіць я не змог
спаскудзіць Фракіі дзіця?[1]

---

[1] Хутчэй за ўсё тут зварот да Смердыеса, які, зрабіўшыся дарослым, састрыг валасы на патыліцы.

## *88B*

*(Οἰκτρα δὴ φρονεῖν ἀκού[ω...)*

Чую, кажа, нібы ў скрусе,
ўсім вядомая кабетка,
абураючыся моцна,
Дэману такія словы:

«Ах, было б куды мне лепей,
маці, каб мяне ты ў бездань
ашалелых хваляў мора
скінула й не шкадавала»[1].

[1] Верш, відавочна, мае іранічнае гучанне і звернуты да жанчыны, якая не была ласкавай з лірычным суб'ектам твора.

## *89*

*(εὖτε μοι λευκαὶ...)*

У чорных валасах маіх, відаць,
праб'юцца і сівыя валаскі...

## *90*

*(Ἀλκίμων σ', ὦ 'ριστοκλείδη...)*

Ні па кім, Арыстаклід, з сяброў
я не плачу так, як па табе:
малады ты ў баі лёг, край
ад няволі баронячы свой.

## *93*

*(κοίμησον δὲ σόλοικον...)*

...не гавары абы-як,
малю цябе[, о Дзэўс,]
па-варварску не кажы!

# ЭЛЕГІІ

## *96*

*(Οὐ φίλος, ὃς κρητῆρι...)*

Сябар мне блізкі не той, які пры напоўненым кубку
кажа пра звады або нават пра жахі вайны –
той, хто, дары пекных муз, дары Афрадыты злучыўшы,
ўмее бяседы любіць і шанаваць весялосць.

## *97*
## *(οὐδέ τί πρὸς θυμόν...)*

Хоць ты не любіш, ды я ўвесь час у чаканні адданым.

## *98*

*(οὐκέτι Θρηϊκίης <παιδὸς>...)*

Болей не ўзрушыць мяне з Фракіі тое дзіця.

# ПРЫСВЯЧЭННІ

## *100*

*[Эпітафія Агатону]*

*(᾽Αβδήρων προθανόντα τὸν αἰνοβίην...)*

Горад Абдэра ў журбе памінаў ваяра Агатона,
пры пахавальным кастры стоячы шчыльнай гурмой.
Лепшы ніхто з юнакоў не зрабіўся ахвярай Арэса,
што, крыважэрны, сабе ў бітвах жахлівых забраў.

## *101*

*[Эпітафія Тымакрыту]*

*(Καρτερὸς ἐν πολέμοις Τιμόκριτος...)*

Мужна ваяр Тымакрыт змагаўся: яго тут магіла.
Смелых не песціць вайна, а баязліўцаў адно.

## *102*

*[Эпітафія сыну Клеанора]*

*(Καὶ σέ, Κλεηνορίδι...)*

Сын Клеанора, й цябе даканала туга па радзіме,
бо ўзімку ты давяраў смела паўднёвым штармам:
несла надвор'е падман, і блішчастыя хвалі забралі
звабліваю прыгажосць юных чароўных гадоў.

## *103*

*[Надпіс на статуі Апалона]*

*(Πρὶ μὲν Καλλιτέλης ἱδρύσατο...)*

Статую ўзвёў Калітэль напачатку! Прыйшоў час, і ўнукі адбудавалі яе, дзякуй за гэтае ім.

## ***104***

*[Надпіс для скульптуры каня]*

*(Οὗτος Φειδόλα ἵππος...)*

Гэта Фэйдоласаў конь, ён з багатага родам Карынфа:
так шанаваны Кранід[1], бо ў гонках конь перамог.

[1] Г. зн. Дзэўс.

## *105*

### *[Надпіс пад сімвалам Гермеса[1]]*

### *(Τέλλιδι ἱμερόεντα βίον...)*

Майін сын[2], надзялі, ўзнагародзь шчасным лёсам Тэліда[3]
за ахвяры яго, жыццё, што ў цноце правёў.
Век пражыць дай яму ў дэме шчырых душой Эванімаў[4],
каб уцехі ён меў ажно да скону свайго.

---

[1] Сімвал бога Гермеса ў выглядзе каменнага слупа з барадатай галавой, рукамі і фаласам выстаўляўся на ўзбоччы дарог і пры ўваходных брамах гарадоў.

[2] Г зн. Гермес.

[3] Імя нейкага жыхара Афінаў.

[4] Літаральна: «тыя, што маюць добрае імя».

## *106*

*[Надпіс на бюсце Гермеса перад уваходам у гімнасій]*

*(Εὔχεο Τιμόνακτι θεῶν...)*

Каб доўга жыў Тыманакс, маліся багоў вестуну,
бо ён ля зіхоткіх брам Гермесам мяне назваў.
І перад палестрай[1] госць мне кожны цяпер дарагі,
ці ён прыбыў з нашых краёў, ці нават аднекуль здалёк.

---

[1] Пляц для фізічных і баявых практыкаванняў у старагрэцкіх гімнасіях.

## *107*

*[Надпіс да выявы Дыёніса]*

*(Σάν τε χάριν, Διόνυσε...)*

З удзячнасцю, Дыёнісе, табе Эхекратыд,
мяне паставіў, фесалійцаў правадыр,
дзеля аздобы горада.

## ***108***

*[Жаночая эпіграма з нагоды пашытага ўбору]*

*(Πρηξιδίκη μὲν ἔρεξεν...)*

Пашыла Прэксідыка гэты ўбор, прыдуманы быў Дысэрыдай ён,
злучылася мастацтва ў ім абедзвюх тут.

## *109*

*[Жаночая эпіграма з нагоды вырабу трыножніка пад вянкі]*

*(Παιδί φιλοστεφάνωι Σεμέλας...)*

Семелінаму сыну[1], што вянкі шануе, заплаціў Мелант,
Арэіфілаў сын, у хоры пераможца, гэтую цану.

[1] Г. зн. Дыёнісу.

## ***110***

*[Жаночая эпіграма да Апалона]*

*(Πρόφρων, Ἀργυρότοξε...)*

Будзь, срэбралукі ўладар[1], да сына Эсхіла – Наўкрата спагадлівы; і не пярэч, калі ён ахвяру складзе.

---

[1] Срэбны лук быў пастаянным атрыбутам вобраза бога Апалона: з яго дапамогай апошні насылаў на людзей немачы і мог учыніць любому чалавеку раптоўную смерць.

## 111

*[Жаночая эпіграма пра шчыт]*

*(Ῥυσαμένα Πύθωνα δυσαχέος ἐκ πολέμοιο...)*

У бойцы зацятай некалі шчыт ўратаваў Піфона,
  і тут шанаваны ён, багіня Афіна, вісіць.

# ДАДАТАК

## *З ананімнай анакрэантычнай паэзіі*

***

*(Δότε μοι λύρην Ὁμήρου...)*

Дайце мне Гамера ліру,
ды без струн, крывёй палітых;
прынясі вясёлы кубак,
размяшай віно, як трэба,
каб затанчыў я, падпіты,
каб я заспяваў пад ба́рбіт[1]
спеў вясёлы, спеў нястрымны!
Дайце мне Гамера ліру,
ды без струн, крывёй палітых.

---

[1] Музычны інструмент, від ліры.

***

*(Δότε μοι, δότ᾽ ὦ γυναῖκες...)*

Дайце, дайце мне, красуні,
Бромія[1] напою выпіць,
бо пакутую, стагну я
ўсцяж ад спёкі невыноснай.
Дайце мне вяночак з кветак,
каб чалу даць ахалоду,
каб ад скварy не сканаць мне.
Толькі полымя мілосці,
сэрца, чым жа астуджу я?
Сядзь, Батыл, у цені побач,
пад прыгожым гэтым дрэвам:
кратае яно галінкі
і пяшчотна лашчыць лісце.
А ручай Пейто лагодна
будзе мармытаць паблізу.
Хто куток чароўны гэты
абмінуў бы, не заўважыў?

---

[1] Адна з мянушак Дыёніса.

***

*(Αἱ Μοῦσαι τὸν Ἔρωτα...)*

Вянкамі з кветак Музы
аблыталі Эрота:
яго зняволіў Ка́лас[1].
Цяпер яго слядамі
памчала Кітэрэя –
каб выкупіць грашыма.
Ды гэта ўсё запозна:
яму там даспадобы,
не сыдзе ён з палону.

[1] У грэцкай міфалогіі – персаніфікацыя Прыгажосці.

***

*(Ἡ γῆ μέλαινα πίνει...)*

П’е чорная зямліца,
з яе п’юць сокі дрэвы,
з рэк мора п’е, а сонца
п’е з мора, ну а месяц
бляск сонца выпівае.
З чаго, сябры, гармідар,
калі я п’ю таксама?

***

*(Φύσις κέρατα ταύροις...)*[1]

Дала прырода рогі
быкам, капыцце – коням,
зайцам – імклівасць бегу,
ільвам – з іклáмі пашчы,
уменне плаваць – рыбам,
крыляць у небе – птушкам,
мужам – адвагу ў сэрцы.
Жанчыне ж не было ўжо
што даць – красу дае ёй.
Замест шчытоў усякіх,
бо ўсё краса здалее:
і полымя, і зброю!

[1] Верш падаецца ў перакладзе Алеся Жлуткі.

***

*(Σὺ μέν, φίλη χελιδόν...)*

Пяеш ты славу Тэбаў[1],
а ты – фрыгійцаў бітвы,
я ж пра свае паразы
спяваю, што нанеслі
не конныя армады,
не флот і не пяхота –
нанесла іх мне тая,
што ўмее стрэліць зрокам.

[1] Старагрэцкае вымаўленне назвы горада Фівы.

***

*(Μεσονυκτίοις ποτ᾽ ὥραις...)*

Як апоўначы Вялікі
Воз сышоў за Валапаса,
як па дні цяжкім людское
племя прагнула спачынку,
у мяне Эрот ля дома
ўпрост пачаў у браму грукаць.
«Хто там грукае, – спытаў я –
Урываючыся ў сон мой?»
Адказаў Эрот: «Дзіця я,
адчыні мне і не бойся.
Ўвесь прамок я, заблукалы
у нямесячнай цямрэчы».
Злітаваўся я, пачуўшы
словы гэткія, ўзяў лямпу,
дзверы разнасцежыў; бачу:
хлопчык з лукам і калчанам,
крылцы ма́е за плячыма.
Да агню яго завёў я,
адагрэў далонямі ручкі,
пасмы выціснуў вільготных
валасоў, а ён, як толькі
да жыцця вярнуўся, мовіў:
«Трэба лук як след праверыць:

ці макрэча нейкай шкоды
цеціве не прычыніла».
Нацягнуўшы лук, як джалам,
ён працяў мне ўсе вантробы,
потым, скачучы, са смехам
мне сказаў: «Здароў будзь, пане!
Лук мой цэлы, ты ж адгэтуль
адчувацьмеш боль у сэрцы!»

***

*(Ἔρωτα κήρινόν τις...)*[1]

Эрот на ружы колісь
пчалу, што засынала,
не згледзеў, і джыгнула
яго за палей пчолка.
Заенчыў ён ад болю,
як дуж ляціць да маці –
чароўнай Кітэрыі.
Крычыць ёй: «Маці, гіну!
Канаю, паміраю!
Змяя мяне ўкусіла,
маленькая з крыла́мі –
яе пчалою клічуць».
А маці: «Пчолкі джала
калі цябе так мучыць,
то як трываюць людзі,
якіх ты раніў, сынку?»

[1] Верш падаецца ў перакладзе Алеся Жлуткі.

***

*(Ὁ Πλοῦτος εἴ γε χρυσοῦ...)*

Каб за золата смяротным
вечна жыць даваў бы Плутас,
я над золатам сядзеў бы
і нястомна вартаваў бы,
а пры набліжэнні смерці
ад яе я адкупіўся б.
А калі, аднак, смяротны
гэтага зрабіць не ў змозе,
то нашто ўздыхаць дарэмна?
Бо калі мой лёс – памерці,
як мне золата падможа?
Ўсё-ткі лепей буду піць я,
у сябрыне час праводзіць
весела з віном салодкім,
а пасля на мяккім ложы
браць навуку ў Афрадыты.

***

*(Ὅταν πίνω τὸν οἶνον...)*

Калі сяджу я й п’ю віно,
усе мае турботы спяць,
і што мне клопату цяжар,
і што мне смутак нейкі, боль?
Туга смерць не прагоніць прэч –
што за жыццё перажываць?
Давайце ж спажываць віно,
Ліэеў[1] непаўторны дар,
Бо калі п’ём яго, тады
ўсе нашыя турботы спяць.

---

[1] Ліэй («які дае радасць») – адзін з паэтычных эпітэтаў Дыёніса.

***

*(Ὅταν ὁ Βάκχος ἔλθῃ...)*

Прыходзіць Бахус да мяне –
і ўсе мае турботы спяць.
Тады багаты я, як Крэз,
і гучны свой заводжу спеў.
Ляжу я, ўвенчаны плюшчом,
свет уяўляючы ў нагах.
Згатуй напой, піць буду я!
Падай мне, хлопча, келіх мой:
валяцца п’яным куды лепш,
як у зямлі ляжаць і гніць!

# ЗМЕСТ

## З КНІГІ ПЕРШАЙ



## З КНІГІ ДРУГОЙ



## З КНІГІ ТРЭЦЯЙ

## ЭЛЕГІІ



## ПРЫСВЯЧЭННІ

## ДАДАТАК

### З ананімнай анакрэантычнай паэзіі

У серыі «Паэты планеты», акрамя песняў і фрагментаў Анаерэона, таксама ёсць у продажы зборнікі такіх паэтаў, як:

Сапфо «Песні»
Францэска Петрарка «Выбраныя песні з «Канцаньерэ»
П’ер дэ Рансар «Выбраныя вершы»
Ўільям Шэкспір «Выбраныя санеты»
Ёган Вольфганг Гётэ «Выбраная паэзія»
Габрыэла Містраль «Выбраныя вершы»
Умар Хаям «Выбраныя рубаі»
Шарль Бадлер «Выбраныя вершы»
Райнэр Марыя Рыльке «Выбраная лірыка»
Фрыдрых Гёльдэрлін «Выбраная паэзія»
Генрых Гайнэ «Выбраныя вершы»
Гіём Апалінэр «Выбраная паэзія»
Эдгар По «Выбраныя вершы»
Федэрыка Гарсія Лорка «Выбранае»
Джон Кітс «Выбранае»
Рыгор Барадулін «Перавыбранае»
Дзімча Дэбялянаў «Выбранае»
Гай Валерый Катул «Выбраныя вершы»
Яраслаў Вырхліцкі «Выбраная паэзія»
Ян Каханоўскі «Выбранае»
Катры Вала «Выбраныя вершы»
Канстандзінас Кавафіс «Выбранае»
Барыс Пастарнак «Выбраная лірыка»
Аляксандр Чакс «Выбраныя вершы»
Хуан Рамон Хіменэс «Выбраная лірыка»
Юлі Таўбін «Выбранае»
Хаім Нахман Бялік «Выбраная паэзія»
Баляслаў Лесьмян «Выбраныя вершы»
Шандар Петэфі «Выбраная паэзія»
Міхай Эмінэску «Выбраная паэзія»
Ўільям Батлер Ейтс «Выбраныя вершы»
Эмілі Дыкінсан «Выбраная лірыка»

Алесь Разанаў «Перавыбранае»
Мацуа Басё «Выбраныя хайку»
Георг Тракль «Выбранае»
Сяргій Жадан «Вершы»
Рабіндранат Тагор «Гітанджалі»
Сэсар Вальеха «Выбраныя творы»
Сігб'ёрн Обстфельдэр «Выбраная паэзія»
Томас Стэрнз Эльёт «Выбраная паэзія»
Арцюр Рэмбо «Выбранае»
Нікалоз Бараташвілі «Паэзія»
Фрыдрых Шылер «Выбраная паэзія»
Умбэрта Саба «Выбраныя вершы»
Марк Валерый Марцыял «Выбраныя вершы»
Ўолт Ўітмэн «Выбраная паэзія»
Візма Бэлшавіца «Выбраная лірыка»
Мікола Зэраў «Выбраная паэзія»
Адам Міцкевіч «Выбраныя вершы»
Юсцінас Марцінкявічус «Выбраная лірыка»
Бгартрыгары «Выбраныя вершы»
Эдыт Сёдэргран «Выбраная паэзія»
Ду Фу «Выбраная лірыка»
Эрлінг Кітэльсен «Выбраная лірыка»
Ўільям Блэйк «Выбранае»
Уладзімір Маякоўскі «Паэзія»
Гунар Экелёф «Выбраная лірыка»
Вільгельм Мюлер «Выбраная лірыка»

По пытаннях набыцця кніг
серыі «Паэты планеты» звяртайцеся:
paety.planiety@gmail.com
Тэл./факс (17) 221.48.71, маб. (29) 623.35.65.

**Анакрэон**

А64 Песні і фрагменты / Анакрэон; пер. са старагрэцкай Лявона Баршчэўскага. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2019. — 92 с. (Паэты планеты).

ISBN 978-985-23-0069-8.

Анакрэон (каля 572 – каля 485 гг. да н. э.) – старагрэцкі паэт, жыццялюбная лірыка якога, дайшоўшы да нашчадкаў у невялікіх фрагментах, натхняла новыя і новыя пакаленні паэтаў у самых розных краінах свету. У дадатку змешчаны ўзоры іншай грэцкай анакрэантычнай паэзіі.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**ББК 84(0)3-5**
**УДК 821.14'02-1**

Серыя «Паэты планеты»

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Анакрэон

**ПЕСНІ І ФРАГМЕНТЫ**

Дызайн *Марціна Русецкага*
Адказны за выпуск *Зміцер Колас*

+12

Падпісана ў друк 08.07.2019. Фармат 60×90 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 2,47. Ум. друк. арк. 2,88.
Наклад 150 асобнікаў. Заказ № .

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.